№ 24(48)
Сьнежань 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Мінск, сьнежань 1999...

# Год надзеяў і расчараваньняў

Сёлета Лукашэнку зноў давядзецца, як кажуць беларусы, у сабакі вачэй пазычаць, каб выйсьці на тэлеэкраны краіны з навагоднім віншаваньнем. Прайшоў яшчэ адзін год ягонага прэзідэнцтва, які яшчэ на крок аддаліў Беларусь і ўсіх нас, яе грамадзянаў, ад незалежнага, заможнага і годнага жыцьця.

Чаго найперш чакаюць і хочуць людзі простыя, паспалітыя, якія, мажліва, нават і не задумваюцца над сэнсам такіх словаў як "права на волю", "права на працу", "права на адпачынак", "права на жыцьцё", нарэшце?.. А хочуць яны, каб іхнія дзяржава ды прэзідэнт гарантавалі ім прыстойнае жыцьцё сёньня і ўпэўненасьць у будучыні.

Пяць гадоў кіруе Беларусьсю Лукашэнка. Пяць гадоў падае краіна ў прорву. І кожны год здаецца, што падаць далей ужо няма куды. Але кожны год прыносіць усё новыя і новыя расчараваньні і жыцьцё, якое ўжо і летась здавалася невыносным, сёлета стала яшчэ горшым. Возьмем да прыкладу эканоміку. Усе нашыя суседзі, браты і сёстры "па саветах", ужо амаль забыліся, што такое інфляцыя. У нас жа яна па-ранейшаму мае прыстаўку "гіпер..." Нават па афіцыйных дадзеных за гэты год беларускі рубель абясцэніўся ў параўнаньні з далярам больш чым у 300 разоў! Адпаведна вырасьлі цэны на прадукты харчаваньня. А самі харчы пачалі надоўга зьнікаць з крамаў, па іх, як за савецкім часам, пачалі выстройвацца даўжэзныя чэргі, на іх пачалі ўводзіць нормы продажу, а сям-там і талоны. А бедны прэзідэнт, як ні стараецца, ніяк ня можа забясьпечыць народ харчаваньнем. Прыгадайце ягоныя словы, што сталі "крылатымі": "не пасьпеў узяцца за яйца, як прапала масла..." А тут яшчэ "неспрыяльныя надворныя ўмовы" і як вынік ураджай сабраны амаль напалову меншы, чым звычайна. Ня лепшыя справы і ў прамысловасьці. Большасьць заводаў калі і працуюць, дык ухаластую: склады затавараныя прадукцыяй, якую нават Расія і нават па бартэру браць ня хоча. І з палівам пастаянныя перабоі. Увесь год бензін то зьяўляўся "па ліміту", то зьнікаў наогул, а звадкаванага газу ў вёсках чакаюць месяцамі... Словам, куды ні кінь — клін.

Аднак адметным сёлетні год стаў найперш тым, што скончылася легітымнасьць Лукашэнкі як прэзідэнта Беларусі. І прызналі гэта ў абсалютнай большасьці краінаў сьвету. Працягвае гуляць з Лукашэнкам, як нібыта з прэзідэнтам, адная Расія. Толькі тут прымаюць яго на "дзяржаўным узроўні", толькі тут падпісваюць з ім "дамовы". Ды яшчэ якія! Аб аб'яднаньні ў адзіную дзяржаву. Што ж, хай пацешацца, не забываючы аднак, што якая ні смачная беларуская цукерка, праглынуць яе ня ўдасца. Бо што б там ні сьцьвярджалі афіцыйныя "сацыёлагі", сёньня большасьць беларусаў супраць палітычнага і ваеннага аб'яднаньня з краінай, якая ваюе, якая гэтаксама завязла ў невырашальных эканамічных праблемах. Вось таму і падпісвалася дамова 8 сьнежня цішком, без рэферэндуму, "праўкі" у яе ўносіліся

(Працяг на стар. 2)

# Хроніка

*8 сьнежня* ў знак пратэсту супраць падпісаньня дамовы пра стварэньне саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі з Гарадзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытуту звольніўся дацэнт кафедры паталагічнай фізіялогіі Сяргей Мальчык. С.Мальчык распаўсюдзіў заяву, у якой гэтак тлумачыць прычыну свайго звальненьня: "8 сьнежня А.Лукашэнка, які незаконна займае пасаду прэзідэнта, учыніў цяжкае дзяржаўнае злачынства — зьнішчыў незалежнасьць Рэспублікі Беларусь. У тым, што адбылося ёсьць доля віны кожнага з нас. Але найбольшая віна за існаваньне гэтага рэжыму кладзецца на кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстановаў, у тым ліку нашага інстытута... Бяздумна выконваючы пісьмовыя і вусныя загады зьверху, вы праводзіце ў жыцьцё палітыку існуючага марыянетачнага рэжыму".

*13 сьнежня* супрацоўнікамі сьледчага ізалятара ГУУС Мінгарвыканкама быў жорстка зьбіты зьняволены дэпутат 13-га скліканьня Андрэй Клімаў. Пасьля зьбіцьця А.Клімаў быў дастаўлены ў суд Ленінскага раёну г. Мінску, дзе праходзіць слуханьне крымінальнай справы, узбуджанай у дачыненьні А.Клімава і былых супрацоўнікаў ААТ "Андрэй Клімаў і К°". Прадстаўніцтва АБСЕ ў Мінску выказала асаблівую заклапочанасьць у сувязі са зьбіцьцём А. Клімава і заклікала ўрад Беларусі "неадкладна расьследаваць гэтае здарэньне, прадаставіць спадару Клімаву неадкладную медыцынскую дапамогу ў адпаведнай бальніцы і вызваліць яго з-пад варты".

(Працяг на стар.6-7)

# Год надзеяў і расчараваньняў

(Пачатак на стар.1)

ў самы што ні на ёсьць апошні момант.

Пагаршалася жыцьцё ў краіне, павялічваўся і ўціск на апазіцыю, пашыралася і запалохваньне людзей, незадаволеных сваім становішчам. Апазіцыя правяла некалькі акцыяў пратэсту, сярод якіх самымі значнымі былі "Праводзіны прэзідэнта" 21 ліпеня і "Марш Свабоды" 17 кастрычніка. Сотні людзей былі затрыманыя, асуджаныя, зьбітыя (дакладныя лічбы па выніках году мы паведамім пазьней). Падзеяй году стала выбарчая кампанія па выбарах прэзідэнта краіны, наладжаная легітымным Вярхоўным Саветам у студзені-траўні. Былі і трагічныя падзеі. Зьніклі пры дагэтуль нявысьветленых абставінах былы міністр унутраных справаў Юры Захаранка і старшыня Цэнтрвыбаркаму Віктар Ганчар, раптоўна і загадкава памёр адзін з лідэраў апазіцыі Генадзь Карпенка... Восем месяцаў правёў за кратамі пад сьледзтвам былы прэм'ер-міністр, кандыдат у прэзідэнты Беларусі Міхаіл Чыгір. Паводле выступленьняў апазіцыі заведзена некалькі крымінальных справаў на актыўных удзельнікаў акцыяў пратэсту...

Такім, калі коратка, быў гэты год, які ні на крок не наблізіў нас да волі і справядлівасьці, да захаваньня дзяржавай элементарных канстытуцыйных правоў сваіх грамадзянаў. Да станоўчых вынікаў яго можна аднесьці хіба адно: міжнародная супольнасьць зацікавілася сітуацыяй у Беларусі і таму, бадай, як ніколі актыўна працавала ў нашай краіне місія АБСЕ. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што новы год прадстаўніцтву АБСЕ давядзецца пачынаць з таго ж, з чаго і мінулыя: са спробаў наладзіць дыялог паміж уладамі і апазіцыяй. З такой цяжкасьцю будаваныя ўвесь год масткі ў лістападзе-сьнежні былі разбураныя прэзідэнцкім бокам. Першая сумесная дамова аб прадастаўленьні эфірнага часу і газетных плошчаў у афіцыйных СМІ апазіцыі была праігнараваная, а кіраўнік дамоўнага працэсу з боку ўладаў М.Сазонаў і ўвогуле звольнены...

Што год наступны нам рыхтуе?.. Беларусы ніколі не вылучаліся сярод іншых сваім аптымізмам, а падзеі апошніх гадоў зрабілі многіх скончанымі песімістамі. І гэта, як ні парадаксальна, пакідае надзею на лепшае. Усё менш беларусаў спадзяецца на дапамогу збоку, усё больш разумее, што спадзявацца трэба толькі на ўласныя сілы. А значыць, шэрагі сьвядомых змагароў супраць таталітарызму, супраць узурпатара, за незалежнае і годнае жыцьцё будуць расьці...

**Андрэй НАЛІВА**



**Мінскія міліцыянты рыхтуюцца да "бою".**

# Двайная здрада

***Заява Цэнтральнае Каардынацыйнае Рады Расійскае партыі Дэмакратычны Саюз***

У сьнежні два народы, расійскі і беларускі, змогуць адзначаць адразу два горкія юбілеі. 22 сьнежня яны будуць успамінаць, як бальшавікі загналі іх у агульную клетку пад назовам СССР, а 8 сьнежня можна будзе адзначаць як іх, пасьля нядоўгай прагулкі, у гэтую клетку вярнулі.

Калі беларускі сатрап Лукашэнка, які даўно перастаў быць законным прэзідэнтам, заўсёды марыў здаць свой народ у абноўленую расійскую імперыю і ніколі ня ўтойваў гэтага, калі ён некалі прыйшоў да ўлады з лозунгам прадажніцтва і нацыянальнае здрады і зараз выканаў свае перадвыбарчыя абяцаньні, пазбавіўшы сваю краіну яе законнага сьцяга, герба, гімна і самой незалежнасьці, дык паводзіны Б.Ельцына здаюцца менш зразумелымі і таму больш вераломнымі.

Расія дастаткова вялікая, небясьпека з заходу ёй не пагражае, а сумнае становішча беларускай эканомікі агульнавядомае. Ніякія лагічныя прычыны, ніякі нацыянальны інтарэс ня мог падштурхнуць прэзідэнта Ельцына да заключэньня гэтага супрацьнатуральнага саюзу. Мы ня можам зразумець, чаму ён, замест таго, каб закончыць сваю палітычную кар'еру рэфарматарам, выратавальнікам свайго народу, абаронцам і прыхільнікам правоў і свабодаў, вырашыў закончыць яе гэтак сумна. Барыс Ельцын заканчвае свой другі прэзідэнцкі тэрмін як сьвядомы кат Чачні, таму што выпадкова двойчы не наступаюць на адныя і тыя ж граблі, прывязвае Расію да беларускага запаведніку таталітарызму і да палітычнага ізгоя Лукашэнкі і, нарэшце, паўтараючы Гіндэзбурга, аддае ўладу над сваім народам і над сваёй сям'ёю ў рукі прыхільніка Андропава Пуціна — прадстаўніка той самай Лубянкі, супраць якой расійскі прэзідэнт змагаўся ў пачатку сваёй кар'еры.

Матывы гэтых нечуваных учынкаў нам не зразумелыя. Але нашая трактоўка іх вынікаў ня можа ад гэтага зьмяніцца. Гэта здрадніцтва. Здрадніцтва і забыцьцё Канстытуцыі і свайго дзяржаўнага і чалавечага абавязку. І Расія, якая некалі бласлаўляла Барыса Ельцына, сёньня мае права яго праклінаць.

**В.Навадворская, Н.Злотнік, М.Кузьменка, В.Цярэшчанка.**

*9 сьнежняя 1999 г.*

# Безабароненасьць

13 сьнежня Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь (нагадаем, што ўсе судзьдзі ў ім прызначаныя асабіста Лукашэнкам) прыняў рашэньне "Аб некаторых пытаньнях забесьпячэньня грамадзянам канстытуцыйнага права на атрыманьне юрыдычнай дапамогі ў крымінальным працэсе". Тым самым, можна лічыць, на афіцыйным узроўні было прызнанае тое, пра што даўно казалі беларускія праваабаронцы: праваахоўчыя органы на падставе аднаго з артыкулаў Крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ часта пазбаўлялі падсьледных права на абарону, якое гарантаванае канстытуцыяй. Канстытуцыйны суд паспрабаваў ліквідаваць супярэчнасьць, закладзеную ў КПК. У артыкуле 49 яго гаворыцца, што кожны затрыманы мае права на абарону, якая павінна быць прадастаўлена яму не пазьней, чым праз 24 гадзіны з моманту затрыманьня. Аднак у артыкуле 53 запісана, што адвакат можа сустрэцца з падабаронным толькі пасьля прад'яўленьня абвінавачаньня, г. зн., што затрыманы можа цэлых дзесяць дзён (абвінавачаньне прад'яўляецца на працягу гэтага тэрміну) знаходзіцца за кратамі без абароны. Што і практыкавалі беларускія праваахоўчыя органы. На жаль, гэтае рашэньне Канстытуцыйнага суда носіць усяго толькі рэкамендацыйны характар, бо ініцыявала разгляд яго група грамадзянаў. А значыць, ад парушэньня канстытуцыйных правоў (артыкул 62 Канстытуцыі РБ сьведчыць, што кожны грамадзянін краіны мае права на абарону) падчас крымінальнага працэсу па-ранейшаму ніхто не застрахаваны...

# Міхаіл Чыгір: "Спадзяюся, што гэты перыяд хутка застанецца толькі ў маёй памяці..."

***30 лістапада пад падпіску аб нявыезьдзе быў выпушчаны экс-прем'ер, кандыдат на пост кіраўніка дзяржавы Міхаіл Чыгір, які правёў у Мінскім СІЗА 245 дзён. У той жа дзень Міхаіл Мікалаевіч, прызнаны большасьцю міжнародных праваабарончых арганізацыяў вязьнем сумленьня, заявіў, што спадзяецца на справядлівы суд і зьбіраецца працягваць палітычную дзейнасьць. Карэспандэнт "Права на волю" сустрэўся з самым высокапастаўленым вязьнем Беларусі.***


Міхаіл ЧЫГІР

***— Міхаіл Мікалаевіч, вы восем месяцаў правялі за кратамі. Скажыце, калі ласка, як вы сябе адчуваеце зараз?***

— Дзякуй, усё забылася вельмі хутка. Ужо праз тыдзень пасьля таго, як я выйшаў на волю, мне здавалася, што ўсё, што адбывалася за гэты час, быццам бы і ня праўда. Дзякуй, усё нармальна, я адчуваю сябе добра. Спадзяюся, што гэты перыяд хутка застанецца толькі ў маёй памяці.

Мяне чакае суд, але ж я добра ведаю, я ўпэўнены ў тым, што тыя абвінавачаньні, якія ёсьць у маёй справе, ніколі ніхто не падтрымае з нармальных, адукаваных людзей. Іх напісалі і падрыхтавалі толькі сьледчыя, якія не параіліся з Міністэрствам фінансаў, не параіліся з Нацыянальным банкам, не параіліся з вопытнымі камерцыйнымі банкірамі: як адбываецца працэс выдачы крэдытаў, як яны вяртаюцца, якія могуць быць выпадкі, якія могуць быць наступствы. Яны самі ўсё вырашылі самастойна. Я ім ужо параіў так: "Калі вы такія граматныя, чаму вы сядзіце ў сьледчым камітэце? Ідзіце працаваць у банкі, у Міністэрства фінансаў, ва ўрад – можа тады ў нас справы добра пойдуць".

З боку сьпецыялістаў-эксьпертаў падтрымкі тыя матэрыялы, якія ёсьць у маёй справе, ніколі не атрымаюць. Я ў гэтым упэўнены. Мне патрэбна, каб быў адкрыты суд, мне патрэбна, каб удзел у судзе бралі эксьперты-сьпецыялісты — кожны у сваім накірунку: тады ніякай падтрымкі ня будуць мець тыя матэрыялы, якія падрыхтавалі сьледчыя.

***— Міхаіл Мікалаевіч, за той час, пакуль ішло сьледзтва і вы знаходзіліся ў зьняволеньні, абвінавачаньні, якія вам прад'яўляліся, зьмяняліся?***

— Шэсьць месяцаў мяне сьледчы камітэт абвінавачваў у крадзяжы дзяржаўнай маёмасьці ў асабліва буйных памерах. Шэсьць месяцаў гэтае абвінавачаньне лічылася за мной, але крыху пазьней хапіла, мабыць, сумленьня ў кіраўніка сьледчай групы папрасіць прабачэньня за тое, што мне было прад'яўленае абвінавачаньне ў вельмі цяжкім злачынстве, якое потым не знайшло пацьвярджэньня. Зараз засталіся абвінавачаньні ва злоўжываньні службовым становішчам, перавышэньні ўлады і службовых паўнамоцтваў, а таксама нядбайнасьці.

***— На сёньняшні дзень не ўзьнікае сумненьня, што "справа Чыгіра" – палітычная. Што вы думаеце на гэты конт?***

— Я таксама думаю, што гэта відавочна палітычная справа. Усім нармальным людзям гэта зразумела. Мяне падтрымала і міжнародная супольнасьць, і міжнародныя арганізацыі, у тым ліку АБСЕ. Які будзе фініш гэтай справы — на сёньняшні дзень яшчэ невядома, але ня сёньня дык заўтра яна будзе перагледжаная, у любым выпадку я буду гэтага дабівацца, якое б рашэньне ня вынес суд. На сёньняшні дзень, на сёньняшні момант я не спадзяюся на тое, што ўсе абвінавачаньні з мяне будуць зьнятыя. Але, што гэта адбудзецца – я не сумняваюся, пытаньне толькі ў тым — наколькі хутка.

***— Раскажыце, калі ласка, якія ўмовы ўтрыманьня зьняволеных у СІЗА, і ў якіх умовах знаходзіліся вы самі?***

— Я павінен сказаць, што ў турмах, у сьледчых ізалятарах сёньня ў нас знаходзіцца каля ста тысячаў чалавек. Гэта вельмі вялікая лічба для нашай маленькай дзяржавы. Умовы ўтрыманьня — вельмі цяжкія: у многіх камерах вялікі недахоп кіслароду, вельмі кароткая прагулка - ад трыццаці да шасьцідзесяці хвілінаў, харчаваньне таксама ў гэтым цяжкім эканамічным становішчы, як вы разумееце, ня можа быць нармальным. Таму можна сказаць, што ўмовы ўтрыманьня зьняволеных вельмі дрэнныя.

Што датычыцца мяне, то я знаходзіўся ў камеры з лепшымі ўмовамі. Такіх камераў я ня думаю, што шмат, але кажуць, што ў Камітэце дзяржаўнай бясьпекі ёсьць яшчэ лепшыя ўмовы. Я быў не адзін, у камеры нас было чатыры чалавекі. Аднаму нельга знаходзіцца ў камеры, лічыцца — ці мала што са зьняволеным можа здарыцца, ці ён нейкае рашэньне прыме кепскае для сябе, таму ніколі па адным не бываюць.

***— Калі нам давялося пабываць у сьледчым ізалятары ў Стакгольме, нас уразіла тое, што там усе знаходзяцца ў адзіночных камерах.***

— У Швецыі, наколькі я ведаю, сядзяць сапраўдныя злачынцы, ня так, як у нас, дзе ёсьць такія прыклады, што проста ні ў якія рамкі не ўкладаюцца. Напрыклад, сядзеў чалавек, які ў лесе ўкраў тры хваіны. Вось так сядзіш і думаеш: гэты чалавек працаваў, меў сям'ю, хацеў падрамантаваць нешта, паехаў у лес, сьпілаваў там гэтыя тры хваіны, яго злавілі. Вядома, трэба каб ён панёс пакараньне за свой учынак, ён павінен адказваць, але ж не садзіць яго за гэта ў турму!? Забралі яго ад сям'і і ад жонкі, трымаюць у вельмі кепскіх умовах, а судзіць хто? А судзіць пракурор. Я упэўнены, што пракурор атрымаў дзяржаўную кватэру. Судзіць яго судзьдзя, які атрымаў дзяржаўную кватэру. А атрымалі яны гэтыя дзяржаўныя кватэры за кошт таго чалавека, які сьпілаваў гэтыя тры хвоі. Дык што ж гэта такое? Ён працаваў на вас, каб вы атрымалі свае дзяржаўныя кватэры, а яго трэба пакараць за тое, што ён для рамонту свайго жытла тры хваіны сьпілаваў у лесе. Ну не трымаць жа яго за гэта ў турме!

І такіх жа прыкладаў шмат. То за мяшок збожжа, то за гэтыя тры хваіны з лесу. Я разумею, што іх трэба

(Працяг на стар. 7)

# Праўда маленькага чалавека

## Некалькі эпізодаў з жыцьця гамяльчанкі Тацяны Церашковай

Усе мы ходзім пад Богам, таму здавён кажуць, што хваробы бойся, астрогу сьцеражыся, а торбы не цурайся. Але для адных гэтая прымаўка застаецца чыстай тэорыяй, а для іншых ператвараецца ў жудасную праўду жыцьця...

Сёлета ўлетку галоўны бухгалтар гомельскага заводу спортмадэлізму Тацяна Лявонаўна Церашкова зьвярнулася па дапамогу ў абласное аддзяленьне Праваабарончага Цэнтру "Вясна". З таго часу і па сёньня мы былі побач з ёю, сачылі за разьвіцьцём падзеяў, аказвалі маральную і юрыдычную дапамогу.

А пачалося ўсё для Т.Церашковай 23 лістапада 1998 году. У гэты дзень да яе на працу завіталі супрацоўнікі АБЭПа і міліцыі. Яны паказалі жанчыне ліст дырэктара завода спортмадэлізму, у якім ён паведамляў праваахоўным органам, што Тацяна Лявонаўна, карыстаючыся службовым становішчам, зрабіла на заводзе дзьве балконныя рамы і скрала іх. Міліцыянты запатрабавалі, каб Церашкова вяла іх да сябе дамоў. Калі ж яна адмовілася, завезьлі жанчыну ў аддзел, дзе дапыталі ў якасьці сьведкі і ўзялі адпаведныя тлумачэньні. Пасьля гэтага Тацяну Лявонаўну на тры гадзіны пасадзілі ў клетку разам з мужчынамі, якія там былі. Потым, выпісаўшы позву, адпусьцілі.

На другі дзень, 24 лістапада, усё паўтарылася амаль адзін да аднаго, за выключэньнем таго, што міліцыянты заявілі пра ўзбуджаную супраць Церашковай крымінальную справу. А ў клетку з мужчынамі кабету кінулі папярэдне надзеўшы кайданкі, і пратрымалі там без вады, ежы і прыбіральні да самага вечару. А потым разам з панятымі павезьлі дахаты, дзе ўчынілі ператрус. Пры гэтым пра балконныя рамы ніхто ня згадваў, усе шукалі нейкія дакументы і грошы. Пасьля ператрусу, сьцьвярджае Церашкова, ніякія акты аб канфіскацыі не складаліся, копію пратаколу агляду ёй на рукі ня выдалі.

Сустрэчы з міліцыянтамі працягваліся ў Тацяны Лявонаўны 25,26 і 27 лістапада. У жанчыны дамагаліся прызнаньняў у валютных махінацыях і іншых грахах. Пагражалі прыводам на працу ў кайданках.

1 сьнежня 1998 году дырэктар завода вусна адхіліў Церашкову ад працы, а 6 студзеня 1999 году выдаў загад аб яе звальненьні з 12 студзеня 1999 году...

Аднак 11 студзеня Тацяна Лявонаўна захварэла і лягла ў бальніцу. Дырэктар завода і міліцыянты званілі ў бальніцу і казалі персаналу, што ў іх ляжыць злачынца, якая хаваецца ад пакараньня. У выніку такога ціску, лічыць пацярпелая, яе выпісалі з бальніцы раней тэрміну і хворай. Адразу пасьля выпіскі (5 сакавіка 1999 г.) дырэктар завода паўторна звольніў бухгалтарку з працы па тым самым артыкуле.

А ўжо 12 сакавіка 1999 г. Тацяну Лявонаўну арыштавалі. Хворую, немаладую, адзінокую жанчыну кінулі на нары ў СІЗА і пратрымалі там два месяцы.

Тут трэба зрабіць адступленьне і сказаць, што ўвесь гэты час Тацяна Церашкова шукала праўду. Яна неаднаразова зьвярталася па дапамогу да прэзідэнта, генеральнага пракурора, пракурора вобласьці. Але кожны раз яе скаргі вярталіся да тых, на каго яна скардзілася. Спачуваньне і рэальнае жаданьне дапамагчы яна сустрэла толькі ў грамадзкіх праваабарончых арганізацыях — "Вясне" і Беларускім Хельсінкскім камітэце. Зьвярталася па дапамогу і ў АБСЕ.

Тое, што жанчына перанесла ў СІЗА, а таксама некаторыя пазьнейшыя падзеі, яна апісала ў сваім лісьце да пасла АБСЕ ў Рэспубліцы Беларусь спадара Х.Г.Віка. Вось урывак з таго ліста:

"Працуючы на заводзе спортмадэлізму і вучэбных дапаможнікаў у якасьці галоўнага бухгалтара і прынцыпова адстойваючы інтарэсы прадпрыемства, я стала непажаданым чалавекам для дырэктара завода Чычыкайлы А.А., які пачаў перасьледваць мяне з мэтай звальненьня.

Некалькі разоў мяне з працы забіралі супрацоўнікі міліцыі Балотнікаў Н.В. і Кулага А.Г., якія адвозілі мяне ў Чыгуначны РАУС і саджалі на тры гадзіны ў клетку разам з мужчынамі. Рабілі ў маёй кватэры вобшук. Усё гэта адбывалася па заяве дырэктара завода Чычыкайлы А.А., які сьцьвярджаў, што я скрала дзьве балконныя рамы.

12 сакавіка 1999 году я па позве ў якасьці сьведкі прыйшла да сьледчага Алейнікава В.Г. Ён цэлы дзень пратрымаў мяне ў камеры РАУС, а вечарам мяне, хворую жанчыну, без прад'яўленьня абвінавачаньня, адразу пасьля таго як я правяла 1,5 месяцы на бальнічным ложку, сьледчы з санкцыі пракурора Чыгуначнага раёну г.Гомеля Лашкіна Л.І. пасадзіў у СІЗА і пратрымаў там да 10 мая 1999 году. Між іншым, абвінавачаньне мне прад'явілі толькі 8 красавіка 1999 году. З абвінавачаньнем я не пагадзілася.

37 дзён (з 12.03 да 17.04) я трымала галадоўку і заявіла пра гэта ў пісьмовай форме. З-за хваробы я не мела магчымасьці рухацца, але не атрымлівала ніякай медычнай дапамогі. Замест дапамогі 21 сакавіка мяне зьмясьцілі ў карцэр, дзе пратрымалі дзесяць дзён.

24 сакавіка 1999 году я была прымусова падвергнутая псіхіятрычнай экспертызе, але ніякага псіхічнага захворваньня ў мяне не знайшлі.

Падчас галадоўкі мне прымусова рабілі штучнае кармленьне з дапамогай трубкі, якую ўводзілі ў горла праз нос. Пры гэтым мне надзявалі кайданкі, чацьвёра моцных мужчынаў трымалі маё цела, спрабуючы сілай адкрыць рот. Яны моцна ціснулі на скулы, вушы, скроні. Пяты - урач, сядзеў у мяне на нагах, шосты - устаўляў трубку ў нос.

Нарэшце, 10 мая 1999 году адбыўся суд, на якім судзьдзя Чыгуначнага раёну г.Гомеля Гарленка Г.А. прызнала мяне вінаватай і прысудзіла выплаціць 60 мільёнаў рублёў штрафу.

Аднак 16 ліпеня 1999 году абласны суд гэты прысуд адмяніў і прызначыў разгледзець справу ў новым судовым складзе.

22 верасьня 1999 году судзьдзя Чыгуначнага райсуда Краўчанка Е.Н. вынесла адмоўнае рашэньне адносна майго зыску аб аднаўленьні на працы. Падчас судовага пасяджэньня мне была ўручаная позва, па якой мяне выклікалі ў суд а 10-й гадзіне ў гэты ж дзень (22.09.99) па крымінальнай справе. Прозвішча судзьдзі ў позве не было. Некалькі разоў у залу ўрываўся мужчына, які патрабаваў ад судзьдзі Краўчанка Е.Н. хутчэй заканчваць судовае пасяджэньне, бо яму патрэбна



 

Церашкова, гэта значыцца я. Як потым высьветлілася, гэта і быў той судзьдзя!

Мае правы груба парушаліся і пад час знаходжаньня ў бальніцы, куды я патрапіла пасля выхаду з СІЗА. Мяне амаль не лячылі, пры выпісцы з бальніцы ня выдалі выпіску з гісторыі хваробы, пазбавіўшы гэтым магчымасьці працягваць лячэньне. 1 ліпеня 1999 году я зьвярнулася са скаргай да начальніка абласнога ўпраўленьня аховы здароўя, але адказу не атрымала да гэтага часу.

Свабодны прафсаюз беларускі ў маіх інтарэсах (я сябра прафсаюза) зьвярнуўся ў суд Цэнтральнага раёну г.Гомеля з зыскам да абласнога ўпраўленьня аховы здароўя аб кампенсацыі нанесенай мне маральнай шкоды. Але суд не прыняў яго да разгляду.

Я шмат разоў зьвярталася да прэзідэнта РБ, Генеральнага пракурора, пракурора вобласьці з просьбай абараніць мае правы, але бяз выніку.

Я ня ў стане абараніць свае правы самастойна. Таму прашу Вас зьвярнуць увагу на мой лёс, абараніць мае правы і тым захаваць маё жыцьцё. 23 верасьня 1999г."

Што далей? А далей зноў суд...

6 кастрычніка і 12 кастрычніка 1999 году адбыліся пасяджэньні суда пад старшынствам судзьдзі Чыгуначнага раёну г.Гомеля Лабунца У.І. Суд адмяніў рашэньне суда ад 10 мая 1999 году і зьняў з Тацяны Церашковай судзімасьць, бо яе правапарушэньне не падлягае крымінальнай адказнасьці... Дык за што ж тады над чалавекам столькі часу зьдзекваліся? За што трымалі ў клетцы, у СІЗА, у карцэры?

Але Тацяна Лявонаўна ня згодна з самім фактам правапарушэньня, і таму яна не задаволілася рашэньнем суда і падала апеляцыю ў абласны суд. Церашкова перакананая ў сваёй невінаватасьці ўвогуле...

Такім чынам, гэтая гісторыя пакуль ня скончаная. Аднак пры любым яе працягу нельга не канстатаваць, што наша праваахоўная сістэма працуе так, што адстаяць свае правы простаму чалавеку надзвычай складана, бо жорны сістэмы працуюць бязьлітасна, механічна перамолваючы лёсы людзей. Трэба мець надзвычайную мужнасьць, настойлівасьць, цвёрдасьць характару, каб адстаяць праўду, праўду маленькага чалавека. Праўду, якую ніхто ня хоча пачуць.

Тацяна Церашкова працягвае дабівацца поўнай рэабілітацыі свайго імя і аднаўленьня ўсіх парушаных правоў. А гэта, пагадзіцеся, справа, разьлічаная на гады. Але ўжо сёньня можна павіншаваць спадарыню Церашкову са зьняцьцем судзімасьці, што сталася немалаважным этапам на шляху да перамогі.

У гэтай гісторыі шмат нюансаў і сюжэтных ліній. Можна было б распавесьці пра ролю ў гэтай гісторыі дырэктара і галоўнага інжынера заводу, паспрабаваць дакапацца да сапраўдных прычынаў перасьледу галоўнага бухгалтара. Можна было б паспрабаваць высьветліць: а ці былі рамы? А калі былі, дык чаму не на балансе прадпрыемства? Хто ў рэшце рэшт вывозіў іх, па якіх дакументах, на чыё імя і кім падпісаных?.. Дзіўна, аднак ні сьледзтва, ні суд так і не пажадалі дэталёва разабрацца ў гэтых пытаньнях...

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Была ў людзей хата...

## *Рэаліі нашага жыцьця*

Пачыналася ўсё проста і бяз нейкае перспектывы для галоўных герояў гэтай гісторыі мець непрыемнасьці. Прыватны ўчастак зямлі, на якім была пабудаваная хата Паляковай Аляксандры Іосіфаўны і яе сына Палякова Аляксандра Мікалаевіча, у завулку Далёкім падлягаў адводу для будоўлі на гэтым месцы шматпавярховага дому. Забудоўшчык – канцэрн "Мінскбуд", падначалены Мінгарвыканкаму.



Што ж, трэба дык трэба. Сям'я Паляковых выдатна разумела неабходнасьць будаўніцтва новых кватэраў у горадзе. Тым больш, што згодна з законам і жыльлёвым кодэксам, Паляковы маглі патрабаваць "замест зямельнага ўчастку ў гэтым раёне гораду – іншы, раўназначны ўчастак для будаўніцтва жылога дому, альбо раўназначную грашовую кампенсацыю", дзеля самастойнага вырашэньня пытаньня аб будаўніцтве новага дома.

Паляковы спыніліся на апошнім. Сваё жаданьне яны матывавалі тым, што доўгі час жывучы ў гэтай хаце, яны займелі пэўны жыцьцёвы лад, і хацелі б захаваць яго, бо прывыклі мець побач і сад, і гараж, і склеп... Да таго ж, у іхнім пажыцьцёвым спадчынным карыстаньні знаходзіўся і зямельны ўчастак, які, таксама, зьяўляўся дадатковым сродкам даходу: агарод па сёньняшнім часе шмат чаго варты...

Згадзіцеся, жаданьне — больш чым законнае, і да таго ж яно зусім не патрабавала ад "Мінскбуду" якіх-небудзь значных высілкаў ды выдаткаў.

Але тут і пачаліся праблемы. Жаданьне Паляковых пачутае не было, заява не разгледжаная, а рашэньнем Мінгарвыканкаму № 1054 іх зямельны ўчастак было загадана перадаць ў пастаяннае карыстаньне "Мінскбуду". Замест хаты ім была кінутая "падачка" ў выглядзе дзьвюх сьціплых аднапакаёвак на ўскрайку гораду.

Шакіраваныя Паляковы напісалі скаргі ў Савет Міністраў, ды ў адміністрацыю Лукашэнкі – але як гарохам аб сьцяну. Больш за тое, канцэрн "Мінскбуд" у сьпешным парадку падае зыск у суд Ленінскага раёну аб прымусовым высяленьні Паляковых з прыватнага домаўладаньня, спасылаючыся на рашэньне Мінгарвыканкаму. Суд зыск – задавальняе. Паляковы робяць крок у адказ – зыск у Маскоўскі суд аб прызнаньні неадпавядаючым заканадаўству рашэньня Мінгарвыканкаму, а дакладней пункта 2, дзе прама парушаюцца канстытуцыйныя правы Паляковых. Але суд без усялякіх матывіровак у скарзе – адмаўляе!

Зьдзіўляе непрафесіяналізм судзьдзяў, якім дастаткова было адкрыць Кодэкс аб зямлі і Жыльлёвы кодэкс, каб упэўніцца ў праваце зыску Паляковых. Але, відаць, ціск зьверху зрабіў сваю справу.

Між тым Артыкулам 51 Кодэксу аб зямлі, які дзейнічаў да 1.01.1999 г. і артыкулам 68 новага Кодэксу – "прадугледжаныя гарантыі землекарыстальнікам у выпадку адасабленьня дзеля дзяржаўных ці грамадзкіх патрэбаў участкаў, што знаходзяцца ў карыстаньні грамадзянаў. Гарантуецца, што адасабленьне ўчастку можа быць зробленае толькі пасьля выдзяленьня землеўладальніку раўназначнага зямельнага участку і будаўніцтва на ім раўназначных жыльлёвых пабудоваў, па жаданьні землеўладальніка".

Пацьвярджэньне гэтаму знаходзіцца і ў лісьце Міністра юстыцыі Г.Варанцова, які адказаў на запыт Паляковых.

Напісана ўсё вельмі даходліва, чорным па белым. І таму Паляковы ўсё ж спадзяваліся знайсьці праўду, і падалі скаргу ў Мінгарсуд.

Як вядома, пакуль нейкае рашэньне знаходзіцца пад абскарджаньнем у вышэйшай інстанцыі, згодна закону, яно ня можа выконвацца.

Тым ня менш, абсурд працягваўся і дайшоў да свайго піку 30 лістапада 1999 году, калі судовыя выканаўцы Яўхіменка і Сьвістунова прыйшлі прымусова высяляць Паляковых прыхапіўшы з сабою... атрад АМАПу.

Дом Паляковых быў узяты штурмам. Дзесятак АМАПаўцаў выбілі дзьверы і, заламаўшы рукі, павалаклі з хаты старую ды яе сына. Потым былі сабраныя ўсе рэчы Паляковых, якія на думку судовых выканаўцаў уяўлялі сабою нейкую каштоўнасьць ды вывезеныя. Але не на адрас выдадзеных кватэраў, а ў зусім іншае месца!

Пасьля ўладальнікаў дому папярэдзілі, што калі яны не выбяруцца прэч, і, цытуем,"не забяруць усе свае гаражы ды іншую херню, усё будзе пушчана пад бульдозер".

Такім чынам, маючы на сваім баку закон ды канстытуцыю, Паляковы апынуліся ў стане прайграўшых. Хата і зямля імі ўжо страчаныя, як і вера ў гэтую дзяржаву, якая так абыходзіцца са сваімі грамадзянамі.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

***P. S.* Як стала вядома, у сьнежні хата і ўсе пабудовы Паляковых былі зраўняныя з зямлёю...**



 

# Падзеі Факты Каментары

*(Пачатак на стар. 1)*

*13 сьнежня* на радыё Бі-Бі-Сі дала інтэрв'ю былы старшыня Нацыянальнага банку Беларусі Тамара Віньнікава, якая была арыштаваная 14 студзеня 1997 г. і зьнікла з-пад варты ў ноч з 7 на 8 красавіка г.г. Супраць Т.Віньнікавай была ўзбуджаная крымінальная справа паводле некалькіх артыкулаў Крымінальнага Кодэксу РБ: злоўжываньне службовым становішчам, службовы падлог, крадзеж у асабліва буйным памеры... У інтэрв'ю радыё Бі-Бі-Сі Т.Віньнікава паведаміла наступнае: "Я дзесяць месяцаў знаходзілася ў адзіночнай камеры. Ці трэба яшчэ казаць, як зроблена наогул турма КДБ — камера мае форму труны. Гэта псіхалагічна так зроблена (...) Сам будынак пабудаваны ў 1926 г. Усе катаваньні 37-га году увабралі ў сябе гэтыя сьцены. Там няма ніякай вады — ні халоднай, ні гарачай. Для таго каб памыцца, строга па раскладзе — тры разы на дзень цябе запрасяць выйсьці толькі ў грамадзкую прыбіральню. Я жанчына, мяне ж даглядалі толькі мужчыны (...) Я была пазбаўленая магчымасьці перапісвацца. У мяне не было спатканьняў. Мне не дазвалялі карыстацца паслугамі адваката — я гаварыла з ім праз дзьве шыбіны за зачыненымі дзьвярыма. Мне не дазвалялі карыстацца ніякімі дакументамі. Мне не дазвалялі карыстацца ўрачэбнай дапамогай. (...) А праз дзесяць месяцаў мне зьмянілі меру стрыманьня. Але мне не дазволілі вярнуцца дамоў. Мне дазволілі вярнуцца ў кватэру майго сына, можа быць, толькі таму, што кватэра яго знаходзіцца ў суседнім доме з КДБ і МУС. Таму там было шчыльнае назіраньне. І мне прыставілі ахову — круглыя суткі ў кватэры знаходзіліся лепшыя людзі рэжыму — галоўнага ўпраўленьня дзяржаўнай аховы... Ну, як вы разумееце, зьбегчы ад такіх людзей немагчыма. Гэта вельмі складана..."

*14 сьнежня* споўнілася дзесяць гадоў з дня сьмерці Андрэя Сахарава — найвядомейшага праваабаронцы, выбітнага вучонага, палітыка, публіцыста...

*15 сьнежня* адбыўся суд над арганізатарам акцыі пратэсту 8 сьнежня супраць падпісаньня саюзнай дамовы — намесьнікам старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" Вячаславам Сіўчыкам. Судзьдзя суда Савецкага раёну г.Мінску Іна Шэйка прызнала В. Сіўчыка вінаватым у зьдзяйсьненьні адміністратыўнага праваправушэньня і аштрафавала на 217,5 млн. рублёў (300 даляраў ЗША).

*16 сьнежня* ў 11.00 каля прахадной Мінскага аўтазавода (МАЗ) на несанкцыянаваны мітынг-пікет сабраліся рабочыя. Яны пратэставалі супраць выдаленьня прафсаюзнай арганізацыі з завода. 8 сьнежня адміністрацыя завода гвалтам выдаліла прафсаюзную арганізацыю з тэрыторыі завода. Гэтую акцыю падтрымаў пракурор Заводзкага раёну. У гэты ж дзень у 16.00. рабочыя сабраліся ізноў. Міліцыянты затрымалі 7 рабочых: *М. Марыніча, Д. Пліса, Н.Зіміна, В.Трошчага, В.Казьянава, М.Раманава, С.Паўловіча.* М.Марынічу міліцыянты выкруцілі руку. У панядзелак 20 снежня ў судзе Заводзкага раёну пачаліся суды над затрыманымі за арганізацыю і правядзеньне несанкцыянаванага пікету. Д.Пліса асудзілі на 29 млн. рублёў за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу па Арт 167.1 ч.2. Перад пачаткам працэсу судзьдзя адхіліла ягоныя хадайніцтвы аб допуску ў працэс у якасьці грамадзкага абаронцы, прадстаўніка прафсаюза В. Бабаеда нягледзячы на тое, што В.Бабаед спасылаўся на пастанову Пленуму Вярхоўнага суда ад 25 сакавіка 1999 году № 1 і на Арт. 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая гарантуе права на карыстанне дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе. На гэта судзьдзя адказала пытаньнем: "Якая Канстытуцыя?" Суды над астатнімі арыштаванымі працягваюцца.

*17 сьнежня* ў гарадзкім судзе горада Баранавічы адвакат Зоя Гаўдзей зайшла ў кабінет судзьдзі Т.Ружык, каб прадаставіць ёй дакументы аб удзеле ў судовым працэсе. Судзьдзя пачала крычаць на З.Гаўдзей, папракаючы яе ў тым, што яна бароніць на судовых працэсах палітычных лідэраў. Адвакат З.Гаўдзей спакойна выйшла і пайшла ў залу суда. Калі Т.Ружык пачала судовы працэс па справе прадпрымальніцы, якую бараніла З.Гаўдзей, яна заўважыла, што прадпрымальніца запісвае працэс на магнітафон. Судзьдзя пачала крычаць на адваката. З.Гаўдзей стала дрэнна. Яна папрасіла выклікаць доктара. Судзьдзя пачала крычаць на адваката яшчэ мацней, патрабуючы ад яе даведку пра стан здароўя. Адвакат выйшла з залы суда і з суседняга пакою выклікала "хуткую дапамогу". У той момант, калі доктар рабіў уколы адвакату З.Гаўдзей, у кабінет уварвалася судзьдзя Т.Ружык і зноў пачала крычаць на адваката... Адвакат З.Гаўдзей знаходзіцца ў бальніцы ў непрытомным стане. Варта адзначыць, што патрабаваньне судзьдзі Т. Ружык спыніць гуказапіс працэсу зьяўляецца незаконным. Згодна з п.6 пастановы Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 3 чэрвеня 1987 г. (са зьменамі ад 19 чэрвеня 1992 г.). "Аб выкананьні судамі рэспублікі працэсуальнага закону пры разьбіральніцтве крымінальных спраў", дазвол суда патрабуецца толькі на фота-, кіна- і відэаздымку. Гэта ўжо ня першы выпадак неэтычных, грубых паводзінаў судзьдзі Т.Рудзік. Падобны выпадак быў некалькі месяцаў таму, калі яна не дапусьціла ў якасьці грамадзкіх абаронцаў прадстаўнікоў ПЦ "Вясна" А. Бяляцкага і В. Стэфановіча па адміністратыўнай справе старшыні баранавіцкай гарадской Рады БНФ "Адраджэньне" Севярцава. У той раз судзьдзя таксама паводзіла сябе неадэкватна.

*17 сьнежня* быў абрабаваны офіс Беларускага Хельсінкскага камітэту. Невядомыя ўкралі кампутар з базаю дадзеных за чатыры гады працы, выдавецкі кампутар з макетамі двух нумароў праваабарончага часопіса "Аркуш" і кампутар сакратарыяту. Напярэдадні абрабаваньня у офісе было адключанае сьвятло. На ўсе звароты з просьбай наладзіць яго супрацоўнікі БХК атрымлівалі адмовы. Між тым офіс БХК знаходзіцца ў адміністратыўным будынку, падпарадкаваным кіраўніцтву справамі Лукашэнкі....

*18 сьнежня* ў 19 гадзін з ізалятару часовага ўтрыманьня Ленінскага РАУС горада Брэста выйшаў сябра Нацыянальнага камітэту АГП і сябра руху БНФ "Адраджэньне" Г. Самойленка. Ён быў асуджаны судзьдзёй А. Міранюк па Артыкуле 167-1 КаАП за тое, што 24 лістапада стаяў у шэрагу грамадзянаў, якія трымалі сьвечкі, пратэстуючы супраць падпісаньня Дамовы аб Саюзе Расіі і Беларусі. На працягу 10-ці дзён сп. Г.Самойленка трымаў галадоўку ў знак пратэсту супраць рэпрэсіўнага прысуду.

*21 сьнежня* Дзярждэпартамент ЗША зрабіў афі-





**Мінск, сьнежань 1999 году, адно з "супрацьстаяньняў...**

цыйную заяву, у якой сказана: "Зьбіцьцё Андрэя Клімава, дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, якое адбылося 13 сьнежня, указвае на глыбіню палітычнага крызісу ў Беларусі і яе самаізаляцыі ад еўраатлантычнай супольнасьці дэмакратычных дзяржаваў. Дэпутат Клімаў быў зьбіты ахоўнікамі ў турме, дзе знаходзіўся ў папярэднім зьняволеньні з лютага 1998 г. па палітычна матываваных абвінавачаньнях. Беларускія ўлады павінны прыняць меры для расьследваньня інцыдэнту і пакараньня вінаватых. Урад ЗША заклікае беларускае кіраўніцтва вызваліць дэпутата Клімава і іншых затрыманых і зьняволеных па палітычных матывах".

*24 сьнежня* Пракуратура Рэспублікі Беларусь адмовілася задаволіць хадайніцтва прадстаўнікоў абароны зьняволенага дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Андрэя Клімава ва ўзбуджэньні крымінальнай справы факце яго зьбіцьця. Прадстаўнікі пракуратуры заявілі, што праведзеная імі праверка падцьвердзіла правамоцнасьць усіх дзеяньняў аховы ("прымусовая мера дастаўкі ў суд"). Варта нагадаць, што з папярэдняга медыцынскага заключэньня, зробленага ўрачом "хуткай дапамогі", які прыбыў у будынак суда, вынікае, што ў Клімава была выяўленая чэрапна-мазгавая траўма і траўма жывата.

*27 сьнежня* ўступіў у сілу Закон "Аб унясеньні зьменаў і дадаткаў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь", падпісаны А.Лукашэнкам. Згодна гэтаму закону павінны быць унесеныя папраўкі ў Кодэкс аб Адміністратыўных Правапарушэньнях і Закон "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". У КаАП РБ зьявіцца артыкул 167-10 і 167-11. Артыкул 167-10 прадугледжвае адказнасьць за дзейнасьць незарэгістраванай альбо неперарэгістраванай палітычнай партыі ці грамадзкага аб'яднаньня (папярэджаньне альбо штраф ад 10 да 50 мінімальных заробкаў). Паўторныя дзеяньні на працягу года могуць карацца штрафам ад 50 да 100 мінімальных заробкаў альбо адміністратыўным арыштам тэрмінам да 15 сутак. Артыкул 167-11 прадугледжвае адміністратыўную адказнасьць за непрадастаўленьне рэгіструючаму органу ў месячны тэрмін дадзеных аб зьмене юрыдычнага адрасу (штраф да 30 мінімальных заробкаў).

**Інфармацыйны аддзел «Вясны»**

# КАБ ХОЦЬ ТРОХІ ПАЛЕГЧЫЦЬ ЖЫЦЬЦЁ...

## *Гуманітарная акцыя Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*

Згодна з апошнімі статыстычнымі зьвесткамі ў Беларусі жыве 2 мільёны 657 тысяч пенсіянераў (гэта кожны чацьвёрты жыхар). Сёлета больш за 50% пенсіянераў у Беларусі атрымліваюць пенсію меншую за мінімальны спажывецкі бюджэт. А ў Брэсцкай вобласьці такіх пенсіянераў каля 90%... Калі ў вёсках пенсіянеры маюць уласную гаспадарку і выжываюць з яе дапамогай, дык у горадзе ім часам не хапае нават на хлеб. Асабліва пакутуюць адзінокія, тыя, хто ня мае дзяцей. Без шырокай грамадзкай дапамогі ім сёньня ня выжыць... А таму сёлетняй восеньню Праваабарончы Цэнтр "Вясна" разам з Камітэтам грамадзкага самакіраваньня (КГС) ЖЭС-66 г. Мінску, што месьціцца на вуліцы Лынькова, правеў дабрачынную акцыю. ПЦ "Вясна" перадаў КГС гуманітарную дапамогу, якая была распаўсюджаная сярод пенсіянераў і інвалідаў. Больш за сорак сем'яў атрымалі па некалькі рэчаў — паліто, пінжакі, кашулі, штаны, швэдары... Прыём і раздачу гуманітарнай дапамогі арганізавалі старшыня КГС Раіса Тарасюк і яе памочніца Ганна Трыфанава.

Хто ж яны тыя, каму сёньня неабходная дапамога? Ці шмат мы ведаем пра гэтых людзей, пра тое, якім чынам выжываюць яны ў сёньняшніх варунках? Давайце пазнаёмімся бліжэй з некаторымі з іх.

Вось, да прыкладу, Ларыса Аляксандраўна Хаміцэвіч. Стрыманая ў словах і эмоцыях жанчына. Ужо некалькі гадоў яна на пенсіі. Атрымлівае сем мільёнаў рублёў (менш за 10 даляраў ЗША). Удава. Жыве з дачкою-інвалідам. У дзяцінстве дачка хварэла і ёй разам з уколамі занесьлі цяжкую хваробу — энцэфаліт. Зараз дачцы 26 год. Пенсія ў яе таксама 7 мільёнаў рублёў...

А вось сям'я Майсейчыкаў. Дзьмітры Іванавіч амаль сорак гадоў адпрацаваў кіроўцам, у апошнія гады на вялікагрузных аўтамашынах. У 1992 годзе, за тры дні да выхаду на пенсію, у яго здарыўся інсульт. Хваробу пераадолеў, але адна рука засталася часткова паралізаванаю. Дыябетык. Год таму, пасьля доўгіх беспасьпяховых спробаў вылячыць язвы на правай назе, давялося яе ампутаваць. Цяпер ён інвалід першай групы. Прычыну зьяўленьня язваў на назе тлумачыць так: "26 красавіка 1986 году, у дзень аварыі на Чарнобыльскай АЭС, я і яшчэ некалькі кіроўцаў былі ў камандзіроўцы пад Гомелем. Усіх кіроўцаў вялікагрузных аўтамашынаў прымусілі тады займацца перавозкамі грузаў з чарнобыльскай зоны. Ніхто нікому нічога не тлумачыў. На трэці дзень пасьля ўзрыву рэактара я быў у самім Чарнобылі. Калі нарэшце вярнуўся ў Мінск, машыну не пусьцілі нават у гараж. Але і тады нічога не патлумачылі пра тое, як берагчыся нам, людзям. Праўда, выплацілі падвойны заробак. Пасьля гэтага я перанёс два інфаркты..."

У Дзьмітрыя Іванавіча ёсьць дачка і сын. Аднак жывуць яны асобна, далёка. У аддзеле сацыяльнага забесьпячэньня далі яму інвалідную каляску. А яна ў ліфт ня ўлазіць. Дабіўся іншай. Зноў праблема: спусьцішся на ліфце, а там да зямлі яшчэ восем прыступак — не прыстасаваныя нашыя дамы для інвалідаў. Сядзі і чакай, пакуль адразу двое здаровых мужчынаў побач пройдуць і дапамогуць...

Яшчэ прыклад. Пенсіянерка Марыя Мікалаеўна Іванова. Амаль усё жыцьцё адпрацавала на абутковай фабрыцы "Прамень". Цяпер ёй 71 год, пенсія 12 мільёнаў рублёў. Муж разьбіўся на матацыкле. Пацярпела пры гэтым і маленькая тады дачка. Зараз ёй 43 гады, яна інвалід першай групы. Пенсія 6 мільёнаў рублёў...

Падобныя лёсы і ў астатніх пенсіянераў і інвалідаў, якія атрымалі дапамогу. Ва ўсіх іх сёньня грошай не хапае нават на самую простую ежу, а адзеньня ім і ўвогуле недакупіцца.

ПЦ "Вясна" дзякуе Вользе Жданові́ч за збор гуманітарнай дапамогі. Асобная падзяка — ксяндзу Уладыславу Завальнюку, які таксама шмат дапамагаў. Дзякуем ім ад імя ўсіх, каму іхняя дапамога хоць трохі палегчыць жыцьцё.

**Валеры ФІЛІПАЎ**

# "СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ГЭТЫ ПЕРЫЯД ХУТКА ЗАСТАНЕЦЦА ТОЛЬКІ Ў МАЁЙ ПАМЯЦІ..."

*(Пачатак на стар.3)*

эканамічна пакараць. А што рабіць чалавеку, які жыве ў вёсцы і ня можа мець свой падворак? У краме ён нічога ня купіць, таму што ён не атрымлівае свайго заробку — на сваім прысядзібным участку, можа, што і вырасьціць. Але я лічу, што трэба ўмовы стварыць, каб ён мог зарабляць і нармальна жыць – тады ў яго і адпадзе неабходнасьць красьці. Калі ж не стварылі ўмоваў, то што яго зараз у турму саджаць? Пытаньняў шмат. І іх неабходна неадкладна вырашаць...

***Ад рэдакцыі.*** На пасяджэньні распараджальнага суда была прызначаная дата разгляду судовай справы Міхаіла Чыгіра Мінскім гарадзкім судом – 27 сьнежня. Але пад уплывам грамадзкасьці намесьнікам Старшыні Вярхоўнага Суда РБ быў пададзены пратэст на вызначэньне распараджальнага суда. 22 сьнежня судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда РБ разгледзела гэты пратэст і адмяніла папярэдняе рашэньне. У вызначэньні сказана: "Згодна з арт. 223 КПК, у стадыі перадачы суду не вырашаецца пытаньне аб даказанасьці прад'яўленага абвінавачаньня, правільнасьці кваліфікацыі злачынных дзеяньняў і вінаватасьці прыцягнутых па справе асобаў.

Дадзеныя патрабаваньні закону судом у поўнай меры ня выкананыя.

Акрамя гэтага, судом дапушчаныя і іншыя парушэньні крымінальна-працэсуальнага закону".

Такім чынам, рашэньне распараджальнага суда адменена, і на сёньняшні дзень невядома, калі адбудзецца суд па "справе Чыгіра".

**Гутарыла Тацяна РЭВЯКА**

## Алесь БЯЛЯЦКІ

# Усяго толькі суткі,

## альбо Рэпартаж з міліцэйскае "дзяжуркі"

«Хадзі сюды, — паклікаў дзяжурны першага студэнта, — расьпішыся вось тут. Заўтра прыйдзеш зраніцы, пойдзеш да начальніка і патлумачыш яму, як ты сюды патрапіў. Што рабіць з табою, вырашаць будзе ён, а я напісаў, што стан ап'яненьня ў цябе не прасочваецца».

Шчасьлівы студэнт мітульгам выляцеў з дзяжуркі. Затое другі заплакаў яшчэ мацней.

«Чаго ты равеш?» — запытаўся ў яго міліцыянт. «Я ж у КДБ думаў ісьці працаваць» – румзаў студэнт. «Трэба было спачатку пайсьці, а потым гарэлку піць», – стаў павучаць яго дзяжурны. «Мяне б туды па блаце ўладкавалі», – спрабаваў растлумачыць яму хлопец. «Толькі нас бедных міліцыянтаў па блаце нікуды не бяруць», – заўважыў сам сабе дзяжурны.

Неўзабаве зьявіўся чарнявы капітан, які езьдзіў дадому па дыхлафос. «Усё пуцём», — сказаў ён, струшваючы з сябе вільготны сьнег. Амаль адразу за ім зайшлі два сяржанты – канвой.

Нас вывелі па два чалавекі і расcадзілі ў розныя аддзяленьні аўтазака. Я са сваім сукамернікам патрапіў у так званы «стакан»: маленькае адгароджанае аддзяленьне на два месцы. Вакол нас была суцэльная настылая — не прытуліцца — бляха. Мы паехалі "катацца" па Мінску і зьбіраць іншых небаракаў. Бензіну ў міліцыі не хапала і ўсіх "сутачнікаў" ды "івээсьнікаў" з розных раённых аддзяленьняў зьбіраў адзін вячэрні аўтазак.

У Першамайскім РАУСе ў наш "стакан" падсадзілі худога невысокага хлопчыка, які сеў да нас на калені. «А цябе за што?» - спытаўся мой сусед. «За грабеж», — адказаў той». «А колькі ж табе гадоў?» — зьдзівіўся сусед. «Чатырнаццаць» – адказаў хлопец. Выглядаў ён гадоў на дванаццаць, ня болей.

Потым мы заехалі на Дабрамысьленскую, да ізалятару часовага ўтрыманьня, дзе прастаялі больш за гадзіну і задубелі канчаткова. Калі аўтазак пасьля чатырох гадзінаў язды па горадзе дабраўся да Акрэсьцінскага ізалятару, мы заходзілі туды амаль як у родны дом. Наперадзе нас чакала цёплая камера і драўляныя нары, на якіх, урэшце, можна было выспацца.

Мяне пасялілі асобна, выдзяліўшы чацьвёртую «хату», дзе я вольна разьмясьціўся і з асалодаю заснуў.

Я праспаў праверку, адно толькі чуў, як у камеру зазірнуў дзяжурны. Я варухнуў нагою, каб паказаць, што жывы, і працягваў спаць далей. Разбудзілі мяне а дзесятай гадзіне. Зайшоў мардаты прапаршчык, які загадаў хутка зьбірацца, бо ўжо чакала машына. Гэта быў іншы аўтазак. Мяне не зачынялі, а пасадзілі на асобнае крэсла паміж закратаванымі катухамі.

«За што гэта вас?» — спытаўся прапаршчык. «За семнаццатае кастрычніка» –'адказаў я. «Відаць, вы там вялікі бугор?..» – пасьміхаючыся, працягваў міліцыянт гаворку. «Ня тое, каб надта», – адказаў я. «Ну і што толку, чаго вы дабіваецеся? – не змаўкаў ён, — былі б вы пры ўладзе, і пры вас было б тое ж самае». «Наўрад ці, — адказаў я, — Прынамсі, саюзу з Расіяй не было б дакладна». «А што Саюз, — працягваў прапаршчык, — за Саюзам я сто сорак рублёў атрымліваў і мне хапала». «Пра той Саюз можаце забыцца, — цьвёрда адказаў я, ведаючы, што бессэнсоўна пераконваць яго ў наканаванасьці на пагібель той дзяржавы: не зразумее і не захоча разумець. — Два разы ў адну і тую ж ваду ня ўвойдзеш... Трэба думаць пра будучыню. А я не хачу, каб мае дзеці ваявалі ў Чачні». «І я не хачу», — падтрымаў мяне прапаршчык. "Значыць усё ня так кепска", — падумаў я.

У Савецкім РАУСе мяне ўжо чакалі. Амаль адразу капітан Леваноівіч пераняў мяне і мы пайшлі, вось дык нечаканасьць, у міліцэйскі "форд", на якім і паехалі ў апорны пункт на Камароўку, дзе таксама знаходзіўся і кабінет судзьдзі. Пасьля настылага бляшанага аўтазака мяккі "форд" з цёплым паветрам... Занадта вялікі кантраст, каб не заўважыць пераменаў, што адбыліся за лічаныя хвіліны.

У апорным пункце мяне завялі ў адзін з міліцэйскіх кабінетаў, дзе прытрымалі хвілінаў дзесяць, а потым паведамілі, што судзьдзя занятая, таму сёньня суд адкладаецца, і мне выпішуць позву на аўторак. Я адчуваў, што гэтак будзе лепей, хаця і не зусім разумеў, чаму яны мяне выпускаюць. І толькі праз некалькі дзён мне распавялі, што размова пра маё затрыманьне была з Латыпавым (міністр замежных справаў РБ) у Стамбуле, дзе тады праходзіў стамбульскі саміт краінаў АБСЕ. Гаварыў пра гэта нехта з даволі адказных асобаў, і менавіта адтуль з акружэньня Лукашэнкі паляцеў сігнал у Мінск: выпусьціце!!! Ад граху далей!..

Ускосна гэта пацьвердзіла і судзьдзя, якая на званок адвакаткі сказала, што маю справу яна і ў вочы ня бачыла. Значыць міліцыянты яе проста не перадавалі, а завёўшы мяне ў свой кабінет, вытрымалі дзеля прылiку некалькі хвілінаў і адпусьцілі, каб разабрацца са мною пасьля заканчэньня сустрэчы ў Стамбуле.

Я прайшоў праз людную Камароўку, праз рады, заваленыя яблыкамі і хурмой, па праспекце Скарыны да ўправы Беларускага Народнага Фронту, і так прыемна было адчуваць сябе вольным. Ня менш прыемна, чым было папярэднія два разы за гэты год, калі сядзець даводзілася па дзесяць сутак.

Суткі, усяго толькі суткі пратрымала мяне ў сваіх адбымках карная машына нашай хворай дзяржавы... У хворай дзяржавы ня можа быць здаровая міліцыя, пракуратура, суд, прыёмнікі-разьмеркавальнікі і турмы. Тут усё праіржавела і разьедзенае іржой. І гэта ўсё, прыйдзе час, нам трэба будзе зьмяняць, зьмяняць як найхутчэй. Бо кожны дзень існаваньня чалавека ў падобных умовах – гэта ганьба для дзяржавы, гэта сорам для ўсіх нас.

Я часта думаю пра тое, што ўсё, што ў нас адбываецца зараз – гэта толькі прэлюдыя, гэта толькі запеў. І колькі б ён ні цягнуўся гэты запеў, ён часовы. А сапраўдная праца, сапраўднае змаганьне за чалавечую годнасьць, за Беларусь, пачнецца пасьля. Пасьля таго, як... І тады нам давядзецца па-сапраўднаму даказваць, чаго мы вартыя. Дэмакратычныя зьмены ў грамадстве, незалежная Беларусь – вось тое поле, дзе пачнецца праўдзівая работа і дай нам Бог розуму зрабіць усё па-людзку, так як належыць.

*(Працяг.
Пачатак у №22-23)*



**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna 96@open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*